ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

11 • 2016
лістапад

Завод «Чырвоны змагар»

Чырвоная рыба клюе каля таго берага...

Малюнак Пятра КОЗІЧА.

**N.B. «Нота бенэ»**

**Звярні ўвагу!**




Сітуацыю з аўтаперавозкамі ўскладніла ўвядзенне новых расходных артыкулаў: за выдачу дазволаў на допуск аўтатранспартных сродкаў да эксплуатацыі, аплату за праезд, утылізацыйныя зборы. Павялічыліся расходы на паліва, запчасткі, страхаванне, стаянкі і розныя дазволы. У выніку затраты, звязаныя з эксплуатацыяй грузавых аўтамабіляў, падраслі на 11,5%.




Беларускія аўтаперавозчыкі губляюць канкурэнтныя пазіцыі на міжнародным рынку транспартных паслуг, таму што з-за дэфіцыту фінансавых сродкаў за два апошнія гады вымушаны знізіць да крытычнага мінімуму абнаўленне аўтапарка.




Усім інвестарам неабходны цвёрдыя гарантыі прыярытэту міжнароднага права над нацыянальным. Пытанне ў тым, як трэба ўдасканальваць нацыянальную нарматыўна-прававую базу, каб ліквідаваць адрозненні між законамі і абараніць правы інвестараў?




Узаемадзеянне айчынных прадпрыемстваў і міжнародных фірм аказалася няпростай задачай з-за адсутнасці магчымасці забяспечыць неабходныя колькасныя і якасныя рэсурсы. Інвестар не прыйдзе ў краіну, калі ёсць умовы для канфліктаў, небяспечныя на судовыя іскі.

**По матэрыялах прэсы.**
**Мастак Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.**

**Міхась СЛІВА**




*Байка*

Сустрэліся аднойчы Дошка, Цвік і Малаток.

Дошка стала папракаць:

– Ты, Цвік, зусім бессардэчны: калі ўпіваешся ў маё цела, мне так баліць!..

– Не крыўдуй, – адказвае Цвік, – мяне ж Малаток б'е па галаве, даводзіцца лезці туды, куды накіроўваюць...

– Я раблю гэта не па сваёй волі, – давай апраўдвацца Малаток. – Калі я б'ю, мне ж таксама баліць...

*г. Рагачоў.*







Малюнкі Алега ПАПОВА.




Шэрага чалавека і яркае адзенне не зробіць прывабным.

Трапіўшы ў палон да жанчыны, мужчына не думае пра вызваленне.

На чужы каравай рот не разяўляй – можаш і без зубоў застацца.

Хто мае поўны кашалёк, спакушаецца на пустыя расходы.

Смак да жыцця вызначаецца не ежай.

Перш чым кінуць камень у чужы агарод, звычайна яго пэўны час трымаюць за пазухай.

Пункт погляду залежыць ад таго, што жадаеш убачыць.

Афарызм – гэта думка, якая пабывала на славеснай дыеце.

Ад чалавека з цяжкім характарам нікому не лёгка.

І таго, хто працы не баіцца, іншы раз пужае зарплата.

Той, хто гне сваю лінію, умее казаць прама.

Народжаныя поўзаць лётаць не могуць. Ды і не хочуць.

Той, хто чуе толькі сябе, не пакутуе з-за глухаты.

Мышыную мітусню могуць ствараць і людзі.

Жыццё так пабудавана, што ўсе пастаянна хочуць яго перабудаваць.

У сямейнае кола не ўпісваецца любоўны трохкутнік.

Чалавек з вялікай літары рэдка выкарыстоўвае апошнюю літару алфавіта.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

# Не толькі лічбы

*Фельетон*

У Надзеі Ціхмянавай была звычка: калі прыходзіла дадому, адразу ж пачынала расказваць мужу Мікіту апошнія пачутыя навіны. Той спачатку не разумеў, навошта яму ведаць, чым жыве якая-небудзь Люда з першага пад'езда, але з часам стаў падтрымліваць размову. Толькі не з эмацыйнага боку, як жонка, а з больш практычнага, жыццёвага. Так адбылося і на гэты раз.

– Марына вельмі перажывае за сына. Сёлета ён ужо ў чацвёртую аварыю трапляе, і ўсё не па сваёй віне. Хлопец цяпер і не ведае, што рабіць: едзе па горадзе ды баіцца, што яшчэ які-небудзь ліхач зачэпіць машыну, – пачала распавядаць чарговую гісторыю Надзея.

Мікіта, які даўно навучыўся слухаць жонку і займацца сваімі справамі адначасова, у гэты момант чытаў у інтэрнэце пра аналагічныя здарэнні. Дарэчы, ён працаваў інструктарам у аўташколе, таму да праблемы аварый ставіўся неабыякава. Мужчына выказаў сваё меркаванне:

– Ды зараз гэтых ДТЗ столькі! Паслухай: у 2015 годзе ў Беларусі, па аператыўных дадзеных кіраўніцтва ДАІ Міністэрства ўнутраных спраў, зарэгістравана 4119 ДТЗ, у якіх загінула 658 чалавек (у тым ліку 12 дзяцей) і паранена 4389.

– Значыць, у сярэднім кожны дзень адбывалася каля 11 аварый. З іх прыкладна ў двух выпадках паміралі людзі, пашкоджанні атрымлівала каля 12 чалавек, – Надзея прачытала скупыя лічбы з артыкула, калі села побач з мужам.

Жахлівая статыстыка напалохала жанчыну. Але яна пераадолела сябе і працягнула:

– 466 ДТЗ адбылося па віне п'яных вадзіцеляў. Увогуле да адміністрацыйнай адказнасці было прыцягнута 28 283 такіх правапарушальнікаў.

– Глядзі, у Мінску больш чым за палову гэтага года зарэгістравана 342 ДТЗ, у якіх загінулі 22 чалавекі і атрымалі пашкоджанні 388. Самыя распаўсюджаныя здарэнні – наезды на пешаходаў: развіталіся з жыццём 11 і траўміравана 138 чалавек. Пры гэтым каля сотні такіх выпадкаў адбылося па віне вадзіцеляў, – Мікіта глядзеў ужо другі артыкул.

– Чытай далей! У студзені–жніўні мінулага года адбылося 27 ДТЗ з удзелам матацыклістаў. Як вынік – 3 смерці і 26 пакалечаных. За такі ж тэрмін сёлета – 13 аварый. Загінуўшых няма, але паранена 14 чалавек, – выдала Надзея.

У пакоі павісла цішыня. Жанчына маўкліва абдумвала прачытанае, а Мікіта працягваў глядзець нататкі пра ўдзельнікаў дарожнага руху. Пакуль нарэшце не падвёў вынікі:

– Слухай, што я яшчэ знайшоў. У 2015 годзе ў Беларусі зарэгістравана 3 042 010 выпадкаў парушэнняў правіл дарожнага руху, за якія вадзіцелі, пешаходы, матацыклісты і веласіпедысты былі прыцягнуты да адміністрацыйных пакаранняў.

Надзея паціснула плячыма і прамовіла:

– І не палохаюць жа людзей штрафы! А іх памер можа даходзіць ажно да 15 базавых велічынь. Я нават не кажу пра тое, што чалавеку пагражае пазбаўленне вадзіцельскіх правоў. А колькі гінуць самі ці забіваюць іншых!

Ціхмянавы яшчэ доўга размаўлялі на тэму ДТЗ. Кожныя новыя дадзеныя пакідалі непрыемныя адчуванні.

– Можа, заўтра на дачу паедзем? – Надзея вырашыла змяніць тэму.

– Добра. Толькі крыху пазней. Праверыў заняткі ў аўташколе з усёй строгасцю. Навучэнцы, пэўна, здзівяцца або засмуцяцца, але няхай прывыкаюць. Час спыняць лагодныя адносіны. Жахліва падумаць, што і мае былыя вучні таксама недзе ў гэтай статыстыцы адзначыліся...

У жыцці сапраўды так: лічбы здаюцца далёкімі і абстрактнымі, але за імі стаяць звычайныя людзі. За намі толькі застаецца выбар: упісвацца ў станоўчую альбо адмоўную статыстыку.

**Алена КЕДА,**
*г. Мінск.*



Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

# Мімаходзь

І пуцёўку ў жыццё часам выдаюць са скідкай.

Сапраўдны настаўнік усё жыццё – старанны вучань.

Не кожны вузкі спецыяліст можа пахваліцца шырокім кругаглядам.

**Даслаў Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

Нават адналюб можа закахацца некалькі разоў з першага позірку.

Каб не атрымаць скулу ў бок, не жадайце іншым ціпуна на язык.

Часцей за ўсё рожкі вырастаюць у таго, у каго галава набіта мякінай.

У каго доўгі язык, з тым звычайна размаўляюць на кароткай хвалі.

Праблемы маленькага чалавека высокае начальства не часта вырашае.

**Заўважыў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.

## Хвароба XXI стагоддзя

*Міні-фельетон*




Сучаснае чалавецтва, нягледзячы на пастаяннае развіццё, увесь час сутыкаецца з праблемай новых захворванняў. Адной з масавых хвароб XXI стагоддзя навукоўцы называюць стрэс.

Дыягназ пацыенту паставіць не складана. Чалавек прачынаецца з адчуваннем, што ўсю ноч цягаў мяхі з бульбай, а ў вочы яму пры гэтым сыпалі пясок. Ён паводзіць сябе агрэсіўна, шмат лаецца ці наадварот становіцца маўклівым. Не хоча нічога рабіць і марыць пра тое, каб яго ніхто не чапаў. Стрэсаголік мае зменлівы настрой і нестабільны апетыт: ён ці ўвогуле губляе смак да ежы, ці пачынае есці як не ў сябе.

Амаль для кожнага з нас такі стан арганізму настолькі звыклы, што часта мы нават не звяртаем на яго ўвагі. Тым не менш, вучоныя лічаць стрэс галоўнай прычынай развіцця мноства захворванняў. Нездарма ў народзе кажуць: усе хваробы ад нерваў.

Калі паглядзець на статыстыку, у той ці іншай ступені ад стрэсу на працы пакутуе больш за 90 працэнтаў насельніцтва нашай краіны. Прыкладна 30 працэнтаў работнікаў знаходзяцца ў напружанні штодня, каля паловы – сутыкаюцца з падобнымі сітуацыямі час ад часу.

А каб засцерагчы сябе ад стрэсу, прапануем вам прытрымлівацца наступных правілаў:

· Рыхтуйцеся да раніцы напярэдадні вечарам *(каб не шукаць паўгадзіны згубленую шкарпэтку)*;

· Прызначайце сустрэчы загадзя *(не прымушайце людзей чакаць і думаць пра вас дрэнна)*;

· Не спадзявайцеся на сваю памяць *(нездарма ж чалавецтва прыдумала штодзённікі)*;

· Навучыцеся часцей адмаўляць людзям *(на ўсіх моцы не хопіць)*;

· Расстаўляйце прыярытэты ў сваім жыцці *(зразумейце, што «разарвацца» вы не здолееце)*;

· Пазбягайце негатыўных асоб *(абыходзьце іх за некалькі кіламетраў)*;

· Выкарыстоўвайце час разумна *(узгадайце першы пункт)*;

· Не забывайце своечасова паесці *(навакольныя спужаюцца, калі ваш жывот пачне з імі размаўляць)*;

· Вырашайце вялікія задачы маленькімі порцыямі *(піць ваду ж прасцей глыткамі, чым залпам)*;

· Глядзіце на праблемы як на часовыя складанасці *(чорная паласа заўсёды змяняецца белай)*;

· Бауце час з дзецьмі *(зносіны з малечай і гульня ў канструктар здымаюць стрэс, можаце праверыць)*;

· Дарыце ласку хатнім жывёлам *(яны адкажуць вам тым жа)*;

· Заўсёды шукайце ў дрэнным добрае *(з аптымізмам, безумоўна, прасцей ісці па жыцці)*;

· Уключайце ў свой штодзённы расклад вольны час *(сон – гэта не вольны час)*;

· Верце ў сябе *(завучыце, як мантру: «я самы прыгожы, самы разумны, самы лепшы», паўтарайце яе кожны дзень перад люстэркам)*;

· Стаўце мэты *(і запісвайце іх у штодзённік, каб не забыцца)*;

· Уяўляйце сябе пераможцам *(і прагаворвайце прыведзеную вышэй мантру)*;

· Часцей абдымайцеся з сябрамі і роднымі *(абдымкі зробяць вас шчаслівымі)*;

· Вучыцеся дыхаць павольна і спакойна *(вы ж не сабака)*;

· Увесь час бярыцеся за нешта новае *(але не кідайце гэта адразу)*;

· Пазбаўляйцеся шкодных звычак *(лепш набывайце добрыя)*;

· Перастаньце разводзіць плёткі *(стварайце іх)*;

· Імкніцеся да дасканаласці, а не да ідэалу *(магчыма, што дасканаласць і стане для вас ідэалам)*;

· Рабіце зарадку *(а можаце проста патанцаваць)*;

· Заўсёды прадумвайце план «Б» *(а лепш і «В», і «Г»)*;

· Ведайце свае слабасці і не бойцеся паказваць іх іншым *(яны могуць прыняць гэта за моцны бок вашага характару)*;

· Пішыце лісты сябрам, якія зараз далёка *(і адпраўце ім поштай канструктар)*;

· Памятайце, што заўсёды ёсць выбар *(а часам даволі шырокі)*;

· Пакіньце спробы выправіць іншых *(не псуйце сабе нервы)*;

· Высыпайцеся, як след *(без захаплення, канешне ж)*;

· Менш размаўляйце і больш слухайце *(так вы зберажэце сілы)*;

· Шчодра хваліце людзей *(і частуйце цукеркамі)*;

· Часцей усміхайцеся *(нічога страшнага, калі нехта пакруціць ля скроні)*;

· Ніколі не губляйце пачуцця гумару *(тут вам дапаможа «Вожык»)*.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Старэнькі дзядок у Вілейцы
Спалохана шморгаў за лейцы,
Бо конік буяны
Скакаў апантана
На месцы, як лялька ў батлейцы.



* * *

Знаёмыя хлопцы з Лагойска
Служылі танкістамі ў войску.
Далёка ад дома
Нялёгка, вядома, –
Дзяліліся салам па-свойску.



* * *

Барысаўцы ў час абароны
Ад грознага Напалеона
Над Беразіною
Пад гнуткай вярбою
Схавалі ў гаршэчку мільёны.



* * *

Пад Клецкам рыбацкія сеткі
Кідалі ў затоку падлеткі.
Ды гэта не жарты,
Спыніць нам іх варта,
Бо могуць патрапіць у «клетку».



* * *

Валожын амаль бездакорна
Трымае парадак законны.
Адна перашкода:
Гандлююць заўсёды
Тут моцным лясным самагонам.



* * *

У Мінскім раёне я марыў
Кватэру купіць за даляры.
Як глянуў на цэны,
Дык стала мне дрэнна
І з носа спаўзлі акуляры.



**Даслаў Уладзімір ЦАНУНІН,**
*г. Вілейка.*

# Дыялогі

## Прыкмета

– У мяне ёсць адна прыкмета.
– І якая ж?
– Выйдзеш ненафарбаванай – сустрэнеш усіх знаёмых, нават тых, пра існаванне якіх ужо і забыла.



## Шэф

– Як ваш новы начальнік?
– Строгі, але справядлівы. Калі спачатку пакарае, дык потым абавязкова прычыну знойдзе...



## Закон жыцця

– Я не разумею, чаму ў якім бы раёне ты ні пасяліўся, сусед з перфаратарам абавязкова адшукае цябе і паселіцца побач!



## Не нарадуецца

У радзільным доме малады бацька фатаграфуе сваё намаўля то з аднаго боку, то з другога – амаль гадзіну шчоўкае. Медсястра, не вытрымаўшы, цікавіцца:

– Гэта ваша першае дзіця?
– Не, дзіця ўжо пятае, а вось фотаапарат першы!



## Непаразуменне

– Ты чаго такі сумны?
– Ды два гады займаўся каратэ, а потым высветлілася, што гэта курсы сурдаперакладу.



## Калі не страшна...

– Татачка, а ў мяне для цябе ёсць вельмі добрая навіна!
– І што ж гэта за навіна такая, сынок?
– Нездарма ты за страхоўку аўтамабіля столькі гадоў плаціў!



## Невыносны боль

Былая жонка – былому мужу:
– Ты плакаў хоць раз, калі мы разышліся?
– Так! Калі бервяно на нагу звалілася.

## Відавочнае, але не неверагоднае

– Ты дурніца! Ты хоць разумееш, што ты дурніца?!
– Вядома, разумею! Выйшла б за генерала – была б генеральша!

**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



Малюнак Ніны БІРЫЛЫ.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




## Чужы кашалёк

Дзядзька Міхась зайшоў у паштовае аддзяленне, вырашыў усе свае справы і накіраваўся да дзвярэй. Жанчына з чаргі заўважыла, што на стале застаўся кашалёк, і гукнула ўслед мужчыну:

– Дзядзька, вы свой кашалёк на стале пакінулі!

– А грошы ў ім відаць? – спытаў Міхась.

– Здаецца, не.

– Тады гэта не мой кашалёк, – уздыхнуўшы, адказаў дзядзька.

**Даслаў Аляксей РУСІНОВІЧ,**
*в. Пятровічы.*

## Што значыць — дырэктар!

Размова паміж супрацоўніцамі фірмы.

– Торт, якім пачаставаў дырэктар на свой дзень нараджэння, такі смачны! Пальчыкі абліжаш...

– Я яшчэ не пакаштавала, але таксама ў захапленні.

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

**Вераніка МАНДЗІК**







Наўрад ці будзеш міласэрнай:
Ўсю ноч з суседам мы пілі...
Нясу ў ахвяру свае нервы –
Пілі!

* * *

Трымаў упарта абарону,
Не браў ты трубку дні са тры.
Мой нумар зноў у спісе чорным?
Сатры!

* * *

Фізрук Пятровіч выдаў кніжку
Пад гучнай назвай «Кампрамат».
– Пра што? – пытаю за
кілішкам.
– Пра мат.

* * *

– Чаму Фаіну-прыгажуню
Кахаць не захацеў, Андрэй?
– А мне з Марыляю у пуні
Файней.

* * *

Натхненне аж бурліць у Вовы:
Святлана зноў сказала «не».
Ён піша у адказ чарговы
Санет.

* * *

Ірына пачала займацца
Сур'ёзна вольнай барацьбой
І навучылася змагацца
З сабой.

* * *

У спорце, дружа, будзь упартым,
Няхай няўдачы – зноў спрабуй.
Ды заплываць усё ж не варта
За буй.

*г. Мінск.*

**Віктар ЛОЎГАЧ**

## Вучоны кот

*З народнага гумару*

Задумаў Змітро ажаніцца з прыгажуняй Адаркай. Дзяўчына, што макавая кветка, але адна бяда — гультайка на ўсё сяло. Нават яе бацька хлопцу так сказаў:

— Хоць яна і дачка мая, родная крывінка, ды ў жонкі браць яе не раю. Прападзеш, хлопча.

— Не, не прападу, — адказвае той. — У мяне ёсць кот вучоны. Удвух справімся з Адаркай.

— Дай жа божа пачутае ўбачыць... — уздыхнуў бацька.

Ажаніліся маладыя. Прачынаецца раніцай Змітро і чакае, пакуль Адарка ўстане ды снеданне згатуе. А яна ўсё спіць, з печы не злазіць. Так без снядання, абеду і вячэры застаўся Змітро.

Разам з Адаркай на печы адлежваецца і кот-вусач.

Два дні цярпеў муж, а на трэці дзень не вытрымаў і загадаў жонцы:

— Злазь, Адарка, з печы. Не хочаш сама — будзем ката вучыць есці гатаваць.

А каб лепш яго было дубцом лупцаваць падчас навукі, пасадзіў ката жонцы на плечы.

Адзін раз б'е па кату, другі раз — па Адарцы трапляе. Кот з усёй моцы раве ды кіпцюрамі яе за плечы дзярэ. А Змітро лупцуе і прыгаворвае:

— Гэта за тое, што снеданне не варыў! А гэта за абед! А гэта за вячэру!

Хоць і балюча Адарцы, але яна таксама ката лае:

— Так табе і трэба, лайдак.

Некалькі разоў вучыў Змітрок ката есці гатаваць. А на сёмы дзень вяртаецца дахаты і бачыць: на стале і варанае, і смажанае.

Пытае Адарку:

— Хто гэта ўсё нагатаваў?

— Кот, любы, кот! Дайшло нарэшце да лайдака.

Тады запрасіў Змітро і цесця ў госці. Неахвотна той ішоў. Ці ж прыемна сорам цярпець за дачку-гультайку? Але як убачыў на стале смачныя стравы, вачам не паверыў. Запытаў:

— Няўжо гэта твая, дачка, работа?

— Мая, татусь, — зачырванелася тая.

Вось што значыць — у хаце кот вучоны.

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Той, хто майстар цалавацца,
Будзе ружаю цвісці.
Калі жыць і не кахацца,
Можна цвіллю зарасці.



* * *

Надакучыў стары пень,
Лезе, быццам авадзень.
І ніяк не адчапіцца:
Я ў раку — і ён тапіцца!



* * *

Я хлапчыну пакахала,
Мой дзявочы лёс такі.
Розуму ў яго замала,
Ды па пудзе кулакі.

## Знарок не прыдумаеш

Трактар мясцовага прадпрыемства, на якім ён [трактарыст] ехаў, канфіскаваны.

Тут рыхтуюць юрыстаў-афіцэраў для падраздзяленняў па наркагандлі.

Старэйшы сын на практыцы пазнаёміўся са студэнткай.

Кватэры здымаюць маладыя сем'і, у якіх бываюць і дзеці.

**Уважліва чытаў перыёдыку**
**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ.**



Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



* * *

Я люблю прыпеўкай грэцца,
Калі маразы стаяць.
Разарвецца маё сэрца,
Як не буду іх спяваць!



* * *

Як на хлопцаў нагляджуся,
Маладзейшаю раблюся.
Ім падміргваю штодзень,
Не губляючы надзей.



* * *

Мой саколік ад «бурды»
Нешта стаў пасіўны.
А ў юнацкія гады
Ох, быў агрэсіўны!



* * *

Не сумуйце, калі вас
Ненаглядны кіне.
Майце хлопца пра запас —
І сумота згіне.



* * *

Колькі нерваў нам матаюць
Мужыкі, лепш не лічыць!
Ды затое дагаджаюць
Калі-некалі ўначы...



* * *

Як жа Колю не кахаць
Ды не зваць у госці?
Ён умее абдымаць,
Каб трашчалі косці.



* * *

Весялей іграй, мілочак,
Націскай на ўсе басы.
Хай ляціць мой галасочак
Праз палеткі і лясы.



* * *

Галасістых дзевак шмат,
Як у лесе елачак.
Паспрабуй цяпер, мой сват,
Гомельскіх прыпевачак.



* * *

Дзе ж тут будзе добра спацца?
Цяжка, людцы, быць адной.
Мне начамі хлопцы сняцца,
Быццам дзеўцы маладой.



* * *

Зайграй, мілы, без прымусу,
Мы ж — як дзве цукеркі.
Хай пачуюць беларусы
З перчыкам прыпевачкі.

* * *

Сто разоў прызнацца мушу:
Мы без жартаў нікуды.
Гумар добра лечыць душы
І ратуе ад нуды.



* * *

Я прыпеўкі вам спявала,
Весяліла круглы год.
Пачастуйце смачным салам —
Застрачу, як кулямёт.

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**




*Гумарэска*

Росным жнівеньскім ранкам дзед Аўхім узяў касу і пасунуўся на ўзмежак, дзе паднялася буйная атава. Ён прайшоў некалькі пракосаў, адчуў, як узмакрэла спіна. Вырашыў крыху перадыхнуць, і тут заўважыў суседа Грышку, які вяртаўся з лесу з кашом. «Вось спрытнюга, ужо і грыбоў паспеў нарэзаць!» – зазначыў Аўхім.

Цікаўнасць авалодала дзедам, ён прыставіў касу да яблыні і накіраваўся да суседа. Калі яны сустрэліся, Аўхім убачыў у руках Грышкі поўны кош баравікоў.

– Ну, малайчына! Дзе назбіраў?

– Ай, дзядзька, і тутака, і тамака. Калі ёсць грыбы, дык яны паўсюль растуць. Галоўнае, умець шукаць.

– Ты мне зубы не загаворвай! Усюды, як жа! – не паверыў дзед. – Мусіць, у Казіны Рог бегаў?

– Ды не. Так далёка не заходзіў, – пачаў апраўдвацца Грышка.

– Тады дзе? – не адступаў Аўхім.

– Кажу ж, што і тутака, і тамака. У пяць гадзін раніцы выйшаў з дому. Пайду я, а то набегаўся і дужа стаміўся, – сказаў мужчына і пачэпаў у бок хаты.

Дзед засмуціўся, што сусед не раскрыў сваю таямніцу. Але і разумеў яго: які грыбнік прызнаецца, дзе назбіраў баравікоў? Аўхім зноў узяўся касіць, але перад вачыма стаялі белыя грыбы суседа. Таму ў хуткім часе аднёс касу ў паветку і пашыбаваў у лес.

Праз тры гадзіны дзед вяртаўся з поўным кашом грыбоў. Праўда, баравікі былі толькі зверху, а пад імі лісічкі, казлячкі, некалькі чырвонагаловікаў.

Ногі Аўхіма самі павярнулі на падворак суседа. Захацелася пахваліцца перад Грышкам сваімі грыбнымі знаходкамі.

– Ну, дзядзька! Малайчына! Дзе збіраў? – з цікаўнасцю разглядаў кошык сусед.

– Ды тутака і тамака, – задаволена зарагатаў стары.

– Пэўна, у Казіны Рог схадзіў? – прыжмурыўшы вочы, запытаў Грышка.

– Ды не, гэта ж няблізкі свет. Туды не дайшоў, – схлусіў Аўхім, бо менавіта там назбіраў больш за ўсё грыбоў.

Тым часам у суседавай хаце смачна запахла падсмажанымі грыбамі. Аўхім удыхнуў гэты водар і адчуў, як пад лыжачкай засмактала.

– Сядай, дзядзька, да стала, – запрасіла суседка Стася. – Пакуль твая Прося грыбы перабярэ, не адна гадзіна пройдзе. А ў нас ужо гатовыя.

Стася паставіла паўнюткую патэльню грыбоў, потым расклала кожнаму па талерках. Усе прыняліся за страву. Але калі Аўхім прыгледзеўся, то замест жаронкі з адных баравікоў, заўважыў там і лісічкі, і казлячкі, і нават чырвонагаловікі. Усміхнуўся дзед сабе пад нос ды загадкава прамовіў:

– Ох, смачныя ў вас баравікі! Усе такія розныя!

Грышка зразумеў кпіны Аўхіма і аджартаваўся:

– А як жа! Тутака яны адныя на смак, а тамака – зусім іншыя.

Суседзі засмяяліся і зноў прыняліся за смажаныя грыбы.

*г. Мінск.*




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

Чалавек разумны робіць адразу тое, што дурань робіць са спазненнем.

*Бальтасар Грасіян-і-Маралес, іспанскі пісьменнік і філосаф*

Хітрасць у параўнанні з мудрасцю – тое ж, што малпа ў параўнанні з чалавекам.

*Уільям Пэн, англійскі палітычны дзеяч*

Першая прыкмета кахання: у мужчын – нясмеласць, у жанчын – смеласць.

*Віктор Гюго, французскі пісьменнік*

Мужчына можа быць неразумным і не здагадвацца пра гэта – але ў тым выпадку, калі ён нежанаты.

*Генры Менкен, амерыканскі крытык і публіцыст*

Археалогія – гэта не гісторыя, узброеная рыдлёўкай, а дэтэктыў, у якім следчы спазніўся на месца здарэння на тысячу гадоў. Гісторыю напішуць потым суддзі.

*Леў Клейн, савецкі і расійскі археолаг*




Цяжка жыць поўным жыццём на пусты страўнік.

*Дон-Амінада, рускі пісьменнік*

Калі чалавек не ведае, да якой прыстані ён трымае шлях, для яго ніводны вецер не будзе спадарожным.

*Сенека Малодшы, рымскі пісьменнік і філосаф*

Жанчыны, шчаслівыя ў першым шлюбе, часцей адважваюцца на другі.

*Джозэф Адзісан, англійскі пісьменнік*

**Віталь ЖУРАЎСКІ**

## Яблыкі

*Гумарэска*

Сяргей Іванавіч не тое, каб недалюбліваў гандляроў, проста ніяк не мог зразумець, адкуль яны бяруць высокія цэны на гародніну і садавіну. Сам ён быў заўзятым садаводам, кожнае лета атрымліваў са сваіх дваццаці сотак неблагі ўраджай груш ды яблык. Частку садавіны пакідаў сабе, а ўсё астатняе аддаваў знаёмым і суседзям.

Таму не разумеў бабулек, якія цэлымі днямі стаяць на рынках ці ўздоўж гандлёвых цэнтраў і імкнуцца прадаць свой ураджай.

– Няведама што! – абураўся Сяргей Іванавіч, чарговы раз праходзячы праз кірмаш. – Як яны могуць за кошык падгнілых яблык прасіць такія грошы? Разумею цэны на магазінныя бананы: іх прывезлі з самой Афрыкі, імпарцёры заплацілі транспартныя выдаткі, мытныя зборы і падаткі. А тут...

Так і хацелася яму іншы раз падысці да пакупніка, які разглядаў на прылаўку зморшчаныя і чарвівыя малінаўкі ды цікавіўся іх цаной, сказаць:

– Прыходзь да мяне ў сад і набяры тых яблыкаў, колькі пажадаеш!

Не мог Сяргей Іванавіч зразумець, навошта людзі задзіраюць кошт на кепскую садавіну. Не прымала ягоная душа такія выкрунтасы. І аднойчы ён не вытрымаў:

– Час пакласці гэтаму канец, – сказаў ён вечарам, калі ўся сям'я сабралася за сталом.

– Што здарылася? – спужалася жонка.

– У выхадныя збяру з дрэў апошнія яблыкі і павязу іх на рынак.

– Ты? І на рынак? – не паверыла жонка. – Які з цябе гандляр, калі за ўсё жыццё і капейкі ні з каго не ўзяў.

У суботу раніцай Сяргей Іванавіч загрузіў яблыкамі кузаў свайго грузавічка і паехаў на мясцовы рынак. Стаў у самым канцы прылаўкаў.

– Месца не лепшае, але нічога! – суцяшаў сябе Сяргей Іванавіч, калі плаціў за дазвол на права гандалю. – Зараз гэта будзе самая бойкая кропка.

І пачаў ён яблыкі... раздаваць. Бясплатна. Спярша пакупнікі не верылі, думалі, нейкі падман, але ў хуткім часе ўтварылая цэлая чарга.

– Ах, якія добрыя яблыкі ў вас урадзіліся, як на падбор! – хвалілі ўсе садавіну Сяргея Іванавіча. – Такія бліскучыя, налітыя, кожны памерам з кулак асілка.

– Вы толькі майце меру, кошыкамі не бярыце. Хачу, каб усім вітамінаў хапіла, – пасмейваўся Сяргей Іванавіч і глядзеў у бок бабулек, якія пасылалі яму злыя позіркі. У хуткім часе яны, пабраўшы свае клункі, зніклі з поля зроку.

За пару гадзін фургон садавіны апусцеў. Сяргей Іванавіч з пачуццём пераможцы паехаў дадому.

На другі дзень, прыйшоўшы на рынак, Сяргей Іванавіч аслупянеў: усе гандлявалі ягонымі яблыкамі!

– Мужчына, купляйце, вельмі добры гатунак, – прапанавала яму першая бабулька, што сядзела са сваёй скрыняй каля ўваходу. – Гэтыя яблыкі да вясны далятаць. І ндорага вазьму – усяго два рублі за кілаграм.

*г. Жодзіна.*




## Андра КАНДЭЛАКІ (1916 –1988)



### Жартам і без жартаў

Галерэя герояў вядомага грузінскага мастака-карыкатурыста Андра Кандэлакі велізарная: фанаты тбіліскага «Дынама», гулякі-дэбашыры, кумачкі, якія так доўга трашчалі паміж сабой, што з купленых імі яек вылупіліся кураняты, фанабэрыстыя начальнікі і вёрткія падхалімы. Адным штрыхом мастак надзяляў сваіх персанажаў характэрнымі рысамі, рабіў пазнавальнымі для кожнага жыхара Тбілісі. Ягоныя карыкатуры на старонках газет і часопісаў чакалі з нецярпеннем, абмяркоўвалі, пераказвалі прыкмечаныя аўтарам забаўныя сюжэты. Маляваныя гісторыі былі коміксамі савецкай эпохі, у якіх адбіваліся ўсе значныя падзеі сучаснасці – ад гераічных палётаў у космас да сатыры на заходніх мілітарыстаў-рэваншыстаў. Змянілася эпоха, канула ў вечнасць «халодная вайна». Але нейкім неспасцігальным чынам палітычныя карыкатуры выклікаюць цікавасць і сёння. Магчыма, таму, што створаны рукой неабыякавага і яркага майстра.

Першыя малюнкі мастака з'явіліся ў 1935 годзе ў сатырычным часопісе «Нианги» – грузінскім сабраце «Вожыка». З гэтым часопісам Кандэлакі супрацоўнічаў на працягу ўсяго жыцця, паралельна ўзначальваючы аддзелы ілюстрацый шэрагу рэспубліканскіх газет. Ягоная творчасць ахоплівае перыяд у паўстагоддзе, з перапынкам на Вялікую Айчынную вайну. Зрэшты, і на фронце, абараняючы са зброяй у руках Падмаскоўе, Растоў, подступы да Каўказа, ён працягваў маляваць. Выкарыстоўваў кожную вольную хвіліну, рабіў алоўкавыя замалёўкі на выпадкова знойдзеным лістку паперы, на пачку ад крупы. Яго вострая сатыра на ворага ўздымала настрой аднапалчанам. А дакладныя, як кадры фотахронікі, малюнкі пакінулі бясцэннае сведчанне пра франтавыя будні.

Андра Кандэлакі скончыў вайну ў чыне капітана. Пасля дэмабілізацыі займаўся любімай справай – маляваў. Ягоныя працы неаднаразова былі прадстаўлены на персанальных выставах у Тбілісі, Маскве, на вернісажах у Празе, Сафіі, Будапешце і іншых сталіцах сацыялістычных краін. Пры жыцці выйшлі з друку два альбомы майстра «Жартам і без жартаў», кніга «Усмешкі мастака», якія імгненна знікалі з прылаўкаў. Нездарма знакаміты дацкі карыкатурыст Херлуф Бідструп, які наведаў Тбілісі, адразу прызнаў у грузінскім мастаку блізкую душу і, падарыўшы на памяць свой аўтапартрэт-шарж, падпісаў лісток, пераставіўшы пачатковыя склады прозвішчаў: «Майму дарагому калегу Кандструпу ад Вашага сябра Бідэлакі».

З творчай спадчынай заслужанага мастака Грузіі Андра Кандэлакі можна пазнаёміцца на сайце Нацыянальнай парламенцкай бібліятэкі Грузіі ў рамках праекта «Пиросмани» лічбавага музея мастацтваў. Акрамя таго, да 100-годдзя графіка выйшаў новы зборнік Андра Кандэлакі «Усмешка мастака», у які ўвайшла мастацкая спадчына аўтара, падрабязная біяграфія, а таксама шматлікія артыкулы, напісаныя пра яго. У прыватнасці, патрыярх савецкіх карыкатурыстаў Барыс Яфімаў так адгукнуўся пра работы Кандэлакі: «Таленавіта, трапна, узята з жыцця».

Андра Кандэлакі нарадзіўся ў Гатчыне ў 1916 годзе. У гэтым прыгожым горадзе пасля заканчэння Пецярбургскага ўніверсітэта служыў інспектарам рэальнага вучылішча ягоны бацька Валяр'ян Кандэлакі, які ажаніўся па вялікім каханні з дачкой протаіерэя гатчынскага Паўлаўскага сабора Марыі Калачавай. Пасля рэвалюцыі сям'я Кандэлакі, з сынам і дачкой Марынай, пераехала ў Грузію, на радзіму



Валяр'яна Андрэевіча. З дзяцінства Андра выдатна маляваў, бацькі развівалі ягоныя здольнасці, юнаку даваў урокі знакаміты графік Іосіф Шарлемань, адзін з заснавальнікаў Тбіліскай акадэміі мастацтваў. Аднак з-за інтэлігенцкага паходжання Кандэлакі ў Акадэмію мастацтваў не прынялі, і ён паступіў у Закаўказскі інстытут інжынераў шляхоў зносін.

Творчасць Кандэлакі не абмяжоўваецца дасціпнымі карыкатурамі і палітычнай сатырай. Ён ствараў мультфільмы, маляўнічыя турыстычныя карты Грузіі, афармляў экспартныя ўзоры віннай і чайнай прадукцыі. Маляваў ілюстрацыі да дзіцячых кніг, баек Крылова і Міхалкова, твораў Чукоўскага, грузінскіх і рускіх народных казак. І мала хто ведаў, што заслужаны мастак Грузіі быў па прафесіі інжынерам.

Андра Кандэлакі пайшоў з жыцця ў 1988 годзе. Старэйшы сын Андрэя Валяр'янавіча – Уладзімір Кандэлакі – вядомы мастак-жывапісец, другі сын – журналіст Юрый Кандэлакі – з'яўляецца аўтарам кнігі, падрыхтаванай да 100-годдзя бацькі. Мастаком стаў таксама і ўнук – Георгій Кандэлакі.

Прапануем чытачам «Вожыка» пазнаёміцца з карыкатурамі выдатнага графіка мінулага стагоддзя Андра Кандэлакі, творчасць якога па-ранейшаму весяліць сэрца і цешыць вока дакладным малюнкам.

**Ірына УЛАДЗІСЛАЎСКАЯ,**
*г. Тбілісі.*
**Пераклад з рускай Ганны СІНІЦЫ.**







**Янусь МАЛЕЦ**




# Урок па лексіцы

*Гісторыйка*

Міколка нерашуча сунуў бацьку ў рукі разгорнуты дзённік:

– Ніна Паўлаўна сказала, каб ты падпісаў...

– Што ўжо нарабіў, нягоднік? – злосна спытаў Віктар Панцялеевіч.

Потым зіркнуў на ніз старонкі і прачытаў выразны запіс класнага кіраўніка, настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Ніны Паўлаўны: «У вашага сына вялікія праблемы з лексікай, нам неабходна як мага хутчэй сустрэцца!»

Пасля працяглай паўзы мужчына прамовіў:

– Якія праблемы, сын? Як я разумею, ты мову зусім запусціў?

Міколка ў адказ толькі маўчаў.

– Што? Язык праглынуў? Больш ніякага камп'ютара і вуліцы, будзеш кніжкі і слоўнікі чытаць, каб з лексікай праблем не было. Я ў тваім узросце з бібліятэкі не вылазіў, пашыраў кругагляд і веды. Бяры падручнік па мове і марш за стол вучыць. А потым мне раскажаш.

У дзверы раптам ціхенька пастукалі. Віктар Панцялеевіч адчыніў іх і ўбачыў аднакласніка і сябрука Міколкі Веньку:

– Ніякіх вуліц, пакуль мой лайдак не вывучыць мову! Так што можаш ісці адсюль.

Але ў Венькі была, відаць, неадкладная справа. Таму праз хвілін дзесяць зноў пачуўся стук. Мужчына злосна паведаміў нахабніку, што Міколка заняты, і пры гэтым моцна грымнуў нагой.

Дамашні ўрок Міколкі працягваўся ў напружанай цішыні. І тут зноў Венька. Віктар Панцялеевіч, які прысеў перакусіць, ускочыў з табурэткі, паспешліва выцягваючы са штаноў шырокі рэмень:

– Ах, каб цябе дзікі парвалі, байструк, ёлупень малы! Сказаў жа, што лексіку Міколка вучыць! Ну, я табе зараз рамнём усыплю так, што ўсіх сваіх продкаў убачыш!

Дадаўшы яшчэ некалькі самых вострых мацюкоў, якія толькі можна «запікаць» у культурным грамадстве, Віктар Панцялеевіч рашуча адчыніў дзверы. І адразу ж аслупянеў: на ганку са збянтэжана-чырвоным тварам стаяла Ніна Паўлаўна, а з-за яе баязліва выглядваў папалоханы Венька.




# Антосікі

* * *

Свой патрэбна ведаць радавод,
Лепш за ўсё – да пятага калена.
І тады заўсёды знойдзеш брод,
І праз горы пройдзеш, і праз сцены.

Мы часта уцякаем ад праблем,
Што самі пераважна і ствараем.
Своечасова іх не вырашаем,
Збіраем, нібы нейкі хан гарэм.

* * *

З жанчынаю спрачацца – марны лёс:
Час згубіце, здароўе не палепшыцца.
Таму смяяцца лепей з ёй да слёз
І цалавацца, мілавацца, цешыцца!

* * *

Перш, чым з хаты ў белы свет ісці,
Не забудзь падумаць, азірнуцца,
Каб дарогу добрую знайсці,
Каб з самім сабой не размінуцца.

* * *

Будуць нас у свеце паважаць,
Нацыяй лічыць разумнай, годнай,
Як пачне нарэшце размаўляць
Кожны беларус на мове роднай.

* * *

Хваліць прагрэс няма прычын,
Мужчыны быццам падурнелі:
Зусім забылі пра жанчын,
Ляжаць з планшэтамі ў пасцелі.

**Антон АНІСОВІЧ,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Путчына.*






Ровар на чацвярых. Чаму б і не?



«Што там у яго смачненькага?»



Конкурс «Міс прыгожыя вочы»



Урокі плавання ў мінулым



У абдымку з «Вожыкам»

## Іспанскія жартачкі

– Як вынайшлі медны дрот?

– Далі адну медную манетку двум каталонцам і яны расцягнулі яе ў розныя бакі.



* * *

– Чаму каталонцы, калі выконваюць народны танец сардана, збіраюцца ў кола, трымаючыся за рукі на адлегласці, а рэчы складаюць у цэнтр?

– Так кожны перакананы, што сусед яго не абкрадзе.



* * *

Спусціўся Ісус на Зямлю і стаў выбіраць, каго пазбавіць ад пакут. Вылечыў кульгавага немца – той падзякаваў ды пабег хутчэй на працу. Дапамог англічаніну з забінтаванай рукой – той выказаў удзячнасць ды таксама пайшоў працаваць. Усё гэта ўбачыў іспанец у інваліднай калясцы і пачаў здалёк крычаць: «Не падыходзь! Вылечыш – дзяржава забярэ пенсію па інваліднасці!»



* * *

– Як прымусіць увайсці ў легкавы аўтамабіль пяцьдзясят каталонцаў?

– Трэба кінуць туды адзін еўра.

– А як прымусіць іх хутка выйсці?

– Сказаць, што гэта таксі.






* * *

– Чаму на камедыйны фільм галісійцы купляюць квіткі на апошні рад?

– Бо смяецца той, хто смяецца апошнім.



**Сабраў Яўген ХВАЛЕЙ,**
*г. Мінск.*







Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Грошы за маўчанне

Здраду каханага чалавека перажыць складана. І вельмі часта людзі пад уплывам эмоцый здзяйсняюць сур'ёзныя злачынствы: забойствы, пабоі ці падпалы. Але адзін магілёўчанін адрэагаваў на падман жонкі выключным чынам. У сацыяльнай сетцы ён стварыў падробную старонку і напісаў палюбоўніку сваёй палавінкі прыкладна наступнае: «Я ўсё ведаю! Калі хочаш, каб я не расказаў пра цябе законнаму мужу, дай мне некалькі соцень долараў!»

Той, зразумела, спужаўся такой перспектывы і заплаціў вымагальніку. Але падманутаму мужу атрыманай сумы падалося мала. Таму ў наступны раз ён запатрабаваў ужо 500 долараў, а затым яшчэ столькі ж.



Кавалер жонкі не вытрымаў і заявіў у міліцыю. У хуткім часе вымагальніка затрымалі. Зараз яму «свеціць» да дзесяці гадоў зняволення. Прадпрымальнага мужа, канешне, шкада, але ўсё ж такі гэта годная цана за сквапнасць.




## Незвычайнае начыненне

Якая ваша любімая начынка ў торце? Амаль упэўнены, большасць узгадае бялковы або сметанковы крэм, згушчонку ці варэнне. Але наўрад ці нехта падумае пра тое, што праслойка можа быць... тытунёвай.

Торт менавіта з такім начыненнем жанчына спрабавала перавезці з Беларусі ў Літву. Пад мастыкай пагранічнікі знайшлі амаль дзвесце пачак цыгарэт. Незвычайны дэсерт канфіскавалі. А штраф за такую вынаходлівасць пагражае зусім не салодкі.



## Што нельга купіць?

За грошы не купіш ні любоў, ні здароўе. Гэтую простую ісціну ведаюць усе. Але людзі працягваюць трапляць у пастку махінатараў, якія гатовы паспрачацца з прыведзенай вышэй праўдай.

Жыхарка Мінскага раёна пазнаёмілася ў інтэрнэце з мужчынам. Праз некаторы час яны сустрэліся, пачалі тэлефанаваць адзін аднаму. Аднойчы малады чалавек абмовіўся, што ў яго сур'ёзныя праблемы са здароўем – анкалагічнае захворванне. Жанчына вырашыла дапамагчы свайму каханаму і на працягу паўгоддзя рэгулярна давала яму грошы на лекі. І ўвесь гэты час ён, нібы салавей, спяваў ёй пра свае пачуцці.

Толькі калі грошы скончыліся, каханне мужчыны раптоўна знікла, як і ён сам. Жанчына спрабавала неяк вярнуць пяць тысяч долараў, але безвынікова. Тады яна і напісала заяву ў міліцыю. «Хворага» хутка адшукалі. Праверачныя мерапрыемствы смяротны дыягназ не пацвердзілі, але выявілі, што палюбоўнік ужо некалькі разоў пабываў за кратамі, у тым ліку і за махлярства. Зараз ён можа трапіць у турму на тэрмін да сямі гадоў. Мы ж спадзяёмся, што пацярпелая зразумее памылку і надалей будзе ўкладаць свае грошы правільна.







Малюнкі Пятра КОЗІЧА.




## Фігура і культура

Кожны дзень грыміць рэклама:
Ёсць цудоўная праграма,
Дзе поп-зоркі пахудзелі,
Разам з тым памаладзелі.
Ходзіць гутарка ў народзе,
Што пампушкі ўжо не ў модзе.
Нават Пугачова Ала
Стройнаю дзяўчынай стала!
Нібыта адвар каштана
Ужывала на сняданак...
Вось і наша цётка Глаша
П'е яго заместа кашы.
Толькі вось бяда якая –
Ледзьве ногі ўжо цягае.
Хоць і стала «маладзіцай»,
Ды патрапіла ў бальніцу.
Трэба з розумам худзець,
Як і што ясі, глядзець.
Палюбіць сваю фігуру
І да ежы мець культуру.

**Людміла КРУГЛІК,**
*г. Дзяржынск.*









Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА і Аляксандра БАГДАНОВІЧА.

## Як вожык дзеда вылечыў

У бабы Зосіным двары
Жыў-быў вожык нестары:
Хоць палохай, хоць гані –
Не баяўся ані-ні.
З коткай малако хлябтаў,
За курамі назіраў...
Ды на зімачку ж бярэцца, –
Ён у спячку не кладзецца.
«Прападзе!» – пашкадавала...
Зоська ў дом яго забрала.
Пасяліўся «кватарант»,
Праўда, ночку – тупаў шмат.
– Не дае мне спаць зусім, –
Жонку дапякаў Яўхім. –
І пыхціць, што самавар,
Нібы ён тут гаспадар...
Тады й жонка на ўсю хату:
– Самагонкі жлукціш шмат ты!
Хоць бы што калі зрабіў:
Хоць бы грубку распаліў!
Дзед – пачуў: запалкі ўзяў,
На калена чуць прыпаў.
Хістануўся – нібы сеў?
І... ускочыў, як той леў.
У Яўхіма па нагах
Кроў цурком... Ну проста жах!
– Можа, у «хуткую» званіць?
– Глянь... там... вожык не вісіць?
Жонка тут жа паглядзела
І на міг аслупянела:
У дзеда гэтакі «начос» –
«Калабок» той як прырос...
І ніяк не адарваць:
Трэба доктара чакаць.

...Да Каляд лячыў той дзед
Найважнейшы «інструмент».
Ды і потым сядзе піць –
Дык ніжэй спіны баліць!
Вось Яўхім хваробу й збыў,
Бо іголкамі лячыў!

**Галіна НІЧЫПАРОВІЧ,**
*Уздзенскі раён,*
*в. Магільна.*

# Рыбалка, паляванне — адно замілаванне!




Малюнак Аркадзя ГУРСКАГА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ**

## Загадкі

Чалавеку верны сябар,
Трэба – абароніць храбра.
Жыве ў будцы каля дома,
Гэта добра ўсім вядома.

(Сабака.)

* * *

На выгане траву жуе,
Пасля нам малако дае.
Есць сена зімняю парой –
Мы п'ём са смакам сырадой.

(Карова.)

* * *

Закруціў баранкам рогі,
Не саступіць вам дарогі,
Бо надзвычай ён упарты.
Дрэнныя з тым зверам жарты.

(Баран.)

* * *

Бараду і грэбень мае,
Ранкам голасна спявае.
І зімой, і ў летні час
Ён штодзённа будзіць нас.

(Певень.)

* * *

На падворку «мэ» ды «мэ» –
Назаліць яна табе.
Корміцца травой, лазой,
А завуць яе ...

(Казой.)

*г. Клецк.*

**Алесь КОЗЕЛ**

## Наравісты мураш

*Казка*

На ўскрайку зялёнага змрочнага бору, каля старой сасны стаяў мурашнік. І жыў там разам з братамі адзін вельмі непаседлівы мураш. Не жадаў ён жыць так, як іншыя, а хацеў усё рабіць па-свойму. Спаць, працаваць і гуляць не тады, калі гэта робяць жыхары мурашніка, а як яму аднаму хочацца.

Аднойчы, пасля гарачай спрэчкі з сябрамі, вырашыў ён жыць асобна. Хоць і ўгаворвалі яго старэйшыя мурашы – пайшоў вандраваць. Спачатку ўсё было добра. Збудаваў сабе маленькі мурашнічак. Працаваў, калі хацеў. Адпачываў, калі стамляўся. І еў, калі быў галодны. Праўда, пачаў заўважаць, што не ўсё ідзе гладка. Паспрабаваў атакаваць прыгожага тоўстага вусеня, а той толькі пасмяяўся, як убачыў мураша аднаго, без падмогі.

Другім разам напаткаў цэлы статак зялёнай тлі, што давала салодкае малачко. «Вось дык удача! – падумаў мураш. – Будзе ў мяне свая гаспадарка». Ды раптам, невядома адкуль, з'явілася божая кароўка і распужала ўвесь зялёны статак. Казяўкі разбегліся і пахаваліся, ды так, што будучы гаспадар не змог іх адшукаць.

Далей яшчэ горш. Вярнуўся мураш з палявання і ўбачыў, што дом яго разбураны, а ўсе запасы знішчаны. Ён разлаваўся і выскачыў на палянку, каб дагнаць і пакараць злодзея. Але тут насустрач яму выбег вялікі чорны жук ды раптам зачапіў сваёй вялізнай лапай. Мураш паваліўся і страціў прытомнасць, бо яму пашкодзіла ножку.

Апрытомнеў гора-герой у родным мурашніку. Ён ляжаў на мяккім ложку, а вакол стаялі ягоныя браты.

– Дурненькі, ну і навошта ты збег ад нас? Бачыш, не даводзіць да дабра саманадзейнасць. Як добра, што ты застаўся жывы!

– Цяпер я гэта зразумеў, – адказаў мураш і заплюшчыў вочы. Яму было сорамна.

*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



# Хто чым мае пахваліцца

Надвячоркам хлапчукі
Па-над берагам ракі
Мяч гадзіны дзве ганялі –
Спрыт і сілу высвятлялі.
Прытаміліся, спацелі,
Адпачыць крыху прыселі.
Сябра хваліць Васілёк:
– Добра бегаеш, Пятрок!
Як патрапіць табе мяч –
Не дагнаць, ну хоць ты плач!
Футбаліст аж нос задраў,
Фанабэрыста сказаў:
– Пацалуйце мяне ў пяты!
Я ж цыбаты, як і тата.
Тут астатнія ўзгадалі,
Што ад сваякоў прыдбалі.
«У мяне, – заўважыў Юра, –
Нібы ў мамы, шавялюра».
Кажа Клім: «Даўно я ведаў,
Што характар маю дзедаў».
Толькі першакласнік Віця
Тэму не зусім змікіціў:
«І ў мяне ёсць чым фарсіць –
Брат штаны даў панасіць...»

**Анатоль ТАМАШЭЎСКІ,**
*г. Асіповічы.*







Малюнкі Паўла ГАРАДЦОВА.




**Мікола ГРАБЯНЁК**

*Былі*

## Ключ



Пятрок быў чалавек гарачлівы, няўрымслівы. Бывала, калі рамантаваў свой старэнькі камбайн і ў яго нешта не атрымоўвалася, мог чым-небудзь і ў бункер запусціць. Часцей за ўсё пад гарачую руку траплялі гаечныя ключы. Імі Пятрок, у асноўным, і спаганяў сваю злосць. У адзін год ён так «змалаціў» камбайн накідным ключом і малатком, што той больш прастаяў на рамонце, чым працаваў у полі. Пасля гэтага і празвалі Петрака Ключом. Калі ён рамантаваўся — а было гэта даволі часта — механізатары стараліся блізка не падыходзіць. Мала чым можа шпульнуць — на ўсё жыццё калекам застанешся!

Калі восенню ў гаспадарцы нарыхтоўваўся сілас для грамадскага статку, Петраку даручылі самую адказную работу: разраўноўваць і трамбаваць сіласную масу. Ускочыў ён на сваім ужо немаладым «кіраўцы» ў траншэю і давай насіцца па ёй то ўзад, то ўперад, утрамбоўваючы зялёны корм. Ужо і абед прывезлі, а Ключа ніяк не даклікацца, так борзда ішла ў яго работа.

Пад'ехаў старшыня калгаса, падышоў да траншэі, узяў у жменю сіласу, паднёс да носа, каб панюхаць. А ў гэты самы момант падляцеў Ключ, ды так газануў, што ўсіх, хто стаяў блізка, апырскала чорным брудам. Трактар заглух, а з кабіны выскачыў увесь запэцканы ў чорнае масла Пятрок з вялікім разводным ключом у руцэ.

— Вось бачыце, старшыня, што значыць стары трактар, нават гідраўліка не вытрымлівае нагрузкі, шлангі рвуцца, — крыкнуў ён і запусціў ключом у трактар. Трапіў акурат у лабавое шкло, якое адразу рассыпалася на дробныя аскепкі.

— Табе трэба не на трактары ездзіць, а на самалёце лётаць, — выціраючы масляныя плямы з твару, сказаў старшыня і дадаў: — Да пенсіі будзеш на ім працаваць.

Варта адзначыць, што слова сваё ён стрымаў: Ключа неўзабаве адправілі на заслужаны адпачынак, а трактар спісалі на металалом.

## Памоцная вада



Па вёсцы папаўзлі чуткі, што баба Вэрця самагонку рашчыніла.

— Значыць, хутка гнаць будзе, — падумаў сусед, і як толькі запахла хлебніцай, заявіўся да бабулі пазычыць запалак. Са страху баба Вэрця кінулася пераліваць пяршак у вядро, а пасля ўжо выбегла насустрач нязванаму госцю.

Пакуль яна шукала тыя сярнічкі, сусед зарыентаваўся, бо нюх у яго быў адмысловы, і паспеў зачарпнуць з вядра некалькі кубачкаў пякучай вады. У грудзях адразу ж пацяплела.

— Можа ў цябе, Вэрця, і салёненькі гурочак знойдзецца? — кажа. — А то нешта ў грудзях трымціць.

Закусіў сусед і, задаволены, паплёўся дамоў з выпрашаным карабком запалак.

Не паспела бабуля праверыць свой апарат, як другі сусед заходзіць.

— З лесу іду, стаміўся, піць хочацца, — кажа.

Прыйшлося і таму прапанаваць кубачак.

— Дай яшчэ адзін, — просіць. — Дужа смачная ў цябе вада. Нейкая памоцная, ажно сіл дадалося.

Наліла яшчэ адзін. Радасны сусед памельцяшыў дадому.

Толькі падрыхтавала наступную ходку, а каля калодзежа палова вёскі ўжо сабралася. Усе глядзяць уніз, нешта горача абмяркоўваюць.

— Ну, і пашчасціла табе, Вэрця, — кажуць, — што памоцная вада прарвалася ў твой калодзеж!

Давялося вынесці вядро на вуліцу і пачаставаць аднавяскоўцаў.

Назаўтра ўся вёска купляла ў Вэрці самагонку і нахвальвала «памоцную ваду».

*Шаркоўшчынскі раён,*
*в. Радзюкі.*



Малюнак Міколы ЧАРКАСАВА.

# Ах, жанчыны!..

Малюе Алег ГУЦОЛ














# Вясёлы слоўнік

Курасадня — курыца-грыль.
Куратар — певень-важак.
Лёска — прадказальніца лёсу.
Ліняць — лавіць лінёў.
Лузаць — гуляць у більярд.
Мацярык — брыдкаслоў.
Місія — англійскі дзявочнік.
Містэрыя — англійскі хлапечнік.
Мнагабор'е — лясістыя мясціны.
Мытня — лазня.
Мяцеліца — прыбіральшчыца.
Наліснік — паляўнічы на ліс.
Насланнё — паштовая карэспандэнцыя.
Натурыцца — адпачываць на прыродзе.
Немаўля — маўчун.
Нераст — неўраджай.
Нябожчык — атэіст.
Оптыка — аптовы продаж.
Паводка — экскурсія.
Пагон — пастух.
Паданне — міласціна.
Падмурак — кацяня.
Паднос — афіцыянт.
Пазванок — тэлефонны апарат.
Паклёп — адбіванне касы.
Паклёпнік — бляхар.
Палегласць — адбой у казарме.
Памазок — маляр.
Памылка — прачка.
Пасаднік — пракурор.
Паўправаднік — стажор праваднікa цягніка.
Пекла — патэльня.
Перавага — лішняя вага.
Перадойка — перадавая даярка.
Перашыек — шалік.
Пляжыць — ляжаць на пляжы.
















**Соф'я КУСЯНКОВА,**
*Рагачоўскі раён,*
*в. Лучын.*

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 11 (1538), 2016 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

В. а. галоўнага рэдактара
Ганна Аляксандраўна КІСЛУШЧАНКА.



Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 06.11.2016. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,36. Тыраж 966 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.






Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

Пякучы Аловак

Конкурс комiксаў да 120-годдзя з дня нараджэння Кандрата Крапiвы

# Саманадзейны конь

комікс па матывах байкі Кандрата Крапівы

*Вялікаму каню — вялікі хамут.*
*Народная прыказка*

Меў нейкі Селянін мізэрнага Каня —
З сабаку, можа, так, мо, з добрае шчаня.
Малому веліччу быць хочацца заўсёды, —
У мацеры-прыроды
Такі спрадвеку ўжо закон.
Так вось і гэты Конь…



Яно не ганьба хоць — сабе дабра жадаць,
Але ў Каня ўжо, як відаць,
Жаданне ў манію вялічча перайшло.
І стаў ён скардзіцца на ўсё сяло:
І «і-га-га!» і «і-го-го!» —
Хамут нібы не да яго.



— Я сам, — іржэ, — такі каніска,
А вось хамут дык жарабячы блізка —
Не засупоніўшы і то ён нават цесны:
Ні ўлезці мне ў яго, ні вылезці —
хоць трэсні!




У горад Селянін прыехаў на кірмаш.
І вось убачыў тут асілак наш,
Што грузныя ламавікі
Пудоў па сто вязуць мукі.



Каб выгнаць, зноў жа, наравы
З дурной канёвай галавы,
Той гаспадар і просіць фурмана,
Каб ён у воз вялікі свой запрог яго каняку.
Фурман гатоў за пэўную падзяку, —




Ахвоты той хамут хоць шмат яму паддаў,
Але тут здарыўся скандал:
Пралезлі праз хамут канёвы персі й ногі,
І затрымаўся ён аж ледзь на жываце.
А тут яшчэ праклятый воз
І з месца не скрануць — як да зямлі прырос.
І просіць у бядзе наш дурань дапамогі.



З тае пары другога хамута
Не патрабуе Конь ніколі:
Свайго яму якраз даволі,
Хамут стаў — проста любата.



Мне часта крыкуны
мільгаюць
у вачах —
Да славы прагныя,
ды вузкія
ў плячах.

Комікс Тамары РАДАВАНАВІЧ.

# «Вожыкаўскі плакат»

Малюнак Алега КАРПОВІЧА.



***Як часцяком без прычыны сумуецца,***
***Выпішы «Вожык» — настрой гарантуецца!***

**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844,**

**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2017 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 3,40 рублёў,
індэкс 01380, цана 2,70 рублёў,
індэкс 748442, цана 9,70 рублёў,
індэкс 01381, цана 7,70 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**




